*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 31(416) 4 ЖНІЎНЯ 1999 г.

## VI з'езд БНФ "Адраджэньне"

### Пазьняк – Вячорка: 156 – 152

31 ліпеня і 1 жніўня ў Менску ў Палацы культуры "Сукно" праходзіў VI з'езд Беларускага народнага фронту "Адраджэньне".

На з'езд прысхала 332 дэлегаты практычна з усіх гарадоў і раёнаў Беларусі.

Прысутнічала многа гасцей і журналістаў.

З прывітаннем да з'езда выступілі: Алег Трусаў – старшыня ТБМ імя Францішка Скарыны, Станіслаў Багданкевіч – старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Павел Знавец – ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (старшыня партыі Мікола Статкевіч знаходзіцца за кратамі), вядомы праваабаронца Валеры Шчукін, якога па яго словах у дзень з'езда "выгналі з турмы" і інш. Было зачытана прывітальнае слова Васіля Быкава.

Адным з першых дакументаў, які прыняў з'езд была заява ў абарону палітычных вязьняў, якія гібеюць у засценках рэжыму.

З'езд заслухаў справаздачныя даклады старшыні БНФ Зянона Пазьняка, выканаўца абавязкаў старшыні БНФ на Беларусі Лявона Баршчэўскага, а таксама ўсіх намеснікаў.

Слова для справаздачы было дадзена і ўсім кіраўнікам абласных арганізацый.

З першых хвілін працы з'езда адчувалася напружанасць, якая паступова перарастала ў палярызацыю дзвюх плыняў у БНФ: плыні цвёрдых прыхільнікаў Зянона Пазьняка і плыні рэфарматарскага крыла БНФ.

Сутнасць канфлікту вызначыць не зусім проста, але прыблізна гэта выглядае так. Крыло Пазьняка лічыць БНФ адзінай нацыянальнай сілай, якая паслядоўна адстойвае дзяржаўныя і нацыянальныя інтарэсы Беларусі.

Рэфармацыйнае крыло бачыць побач з сабой у адзіным шыхце для барацьбы з рэжымам усе дэмакратычныя і антылукашэнкаўскія сілы незалежна ад іх афарбоўкі і паслядоўнасці іх палітыкі.

Абедзве плыні з'езда даволі грунтоўна былі прадстаўлены сярод выступоўцаў.

Адны дэманстравалі абсалютную веру ў мудрасць і правільнасць палітыкі Зянона Пазьняка, іншыя крытыкавалі гэтую палітыку і шукалі шляхоў яе замены.

На агульным фоне вылзялялася заява дэлегацыі Гарадзенскай вобласці, у якой патрабавалася не дапусціць расколу фронта, дабіцца пашырэння сферы яго дзейнасці і таго, каб старшыня БНФ знаходзіўся на тэрыторыі Беларусі.

Дарэчы, небяспека расколу вісела ў паветры з'езда ўсе два дні і раз-пораз штучна падагравалася агучваннем неабачлівых заяў лідараў БНФ, зробленых перад з'ездам.

З'езд ішоў на шумавым і візуальным фоне, які стваралі цвёрдыя прыхільнікі Зянона.

На другі дзень з'езда вострая палеміка разгарнулася вакол парадку выбараў кіраўніцтва.

Аргкамітэт прапанаваў адначасовыя выбары старшыні, Сойму і Рэвізійнай камісіі. Прыхільнікі Зянона Пазьняка настойвалі на тым, каб спачатку абраць старшыню, а пасля па яго прапанове Сойм. Гарадзенцы патрабавалі спачатку абраць Сойм, а потым з яго складу старшыню.

За два этапы галасавання перамагла пазіцыя Зянона Пазьняка. З'езд прыступіў да выбараў старшыні. На пасаду старшыні БНФ былі вылучаны кандыдатуры Зянона Пазьняка, Вінцука Вячоркі, Юрыя Хадыкі, Віктара Івашкевіча, Вячаслава Сіўчыка, Аляксея Шыдлоўскага.

Хадыка, Сіўчык, Івашкевіч, Шыдлоўскі знялі свае кандыдатуры на карысць Вінцука Вячоркі. У спіс для таемнага галасавання былі ўнесены:

1.Вінцук Вячорка
2.Зянон Пазьняк.

Удзел у галасаванні прынялі 315 дэлегатаў.

Пасля ўскрыцця скрынак у іх аказалася 313 бюлетэняў, з якіх адзін прызнаны несапраўдным.

Галасы размеркаваліся Вячорка: "за" 152 "супраць" - 160

Пазьняк : "за" - 156 "супраць" - 156

Для перамогі кожнаму кандыдату трэба было набраць не менш як 167 галасоў.

Такім чынам старшыня БНФ абраны не быў. Упершыню Зянон Пазьняк не набраў у БНФ нават 50 адсоткаў галасоў.

Старшыня з'езда Лявон Баршчэўскі абвясціў другую сесію VI з'езда БНФ на верасень-кастрычнік гэтага года. У абодвух бакоў ёсць час падумаць над сваімі палітычнымі пазіцыямі і папрацаваць з дэлегатамі, асабліва з той паўсотняй якая была вылучана, але на з'езд не даехала.

Вынікі з'езда будуць яшчэ аналізавацца, але ўжо можна ўпэўнена сказаць, што голага аўтарытэту, заснаванага хаця б на вялікіх мінулых заслугах, сёння мала. Шараговы Фронт думае над лёсам Беларусі і патрабуе больш эффектыўнага кіраўніцтва.

Раскол не адбыўся, але і праблема не знятая. Фронтам прадаўжае кіраваць Зянон Пазьняк і стары склад Сойму, дзе ў Пазьняка меншасць прыхільнікаў.

З'езд Партыі БНФ не адкрываўся.

***Сябра Сойму БНФ,***
***дэлегат VI з'езда БНФ***
***Станіслаў Суднік.***

### Шаноўныя сябры!

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны мае гонар вітаць удзельнікаў 6 з'езда Беларускага народнага фронту.

У канцы 80-х гадоў БНФ паўстаў супраць цемрашальства струхнелай савецкай сістэмы, аб'яднаў здаровыя сілы канаючай бэсэсэраўскай дзяржавы.

Больш за дзесяць гадоў мінула з таго часу, і БНФ стаў рэальным магутным фронтам барацьбы за адраджэнне роднай мовы, культуры, Бацькаўшчыны, адукацыйным цэнтрам, дзе абруселы беларус адшукваў забытыя веды пра ўласную гісторыю, вучыўся здабываць годнасць і волю, пазбаўляўся местачковай рахманасці і наладжваў зносіны з сусветнай супольнасцю.

БНФ выхаваў шэраг выбітных палітыкаў, голас якіх чутны ў краіне і за яе межамі, аб'яднаў беларускую моладзь, якая карыстаецца роднай мовай, выбірае для краіны нацыянальны шлях развіцця, актыўна пратэстуе супраць умяшальніцтва Расеі ў справы незалежнай Беларусі.

Зараз БНФ, як і ўся краіна, перажывае цяжкія часы. Сёння ў дзяржаве аб'ядналіся прыхільнікі знішчэння Беларусі на мапе свету і вядуць сваю работу па расколванні грамадства. У гэты лёсавызначальны момант, як ніколі, патрэбная магутная сіла, якая спыніла б разбуральныя працэсы, згуртавала б насельніцтва ў беларускі народ і прадоўжыла б адраджэнне краю.

Таварыства беларускай мовы ўпэўненае, што Беларускі народны фронт зможа выканаць найвялікшую задачу.

Жыве Беларускі народны фронт!

Жыве Беларусь! *(Прывітальнае слова VI з'езду БНФ старшыні ТБМ Алега Трусава).*

# 27 ліпеня

## 9-я ўгодкі прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь-аб'яўленне незалежнасці Рэспублікі Беларусь

### 27 ліпеня – наша свята!

Цёплым ліпеньскім днём 1990 года Вярхоўны Савет Беларусі па прапанове парламентскай апазіцыі, сярод якой было 13 дэпутатаў вылучаных у беларускі парламент ТБМ, прыняў Дэкларацыю аб незалежнасці Беларусі. Гэты гістарычны акт назаўжды застанецца ў нашых сэрцах, бо ён прывёў да чарговага адраджэння беларускай мовы, гісторыі ікультуры, што было заканадаўча адлюстравана ў Канстытуцыі Беларусі 1994 года.

Зараз, калі кіраўнічыя колы Беларусі зноў загаварылі аб шырокім дыялогу з апазіцыяй, ТБМ прапануе з 1 верасня 1999 года адкрыць Беларускі нацыянальны універсітэт, вярнуць беларускую мову ў нашыя ВНУ, школы і дзіцячыя садкі. Незалежная беларуская дзяржава не можа існаваць без сістэмы нацянальнай адукацыі ўсіх узроўняў.

Сакратарыят і рэдакцыя газеты "Наша слова".

## У Берасці

27 ліпеня 1999 года ў гонар Дня Незалежнасці Беларусі была здзейснена акцыя. Над Берасцейскай крэпасцю невядомымі быў узняты бел-чырвона-белы сцяг. Гэта крэпасць была пабудавана расейцамі ў XIX ст. на месцы зруйнаванага імі старажытнага места, як сімвал расейскага панавання на Берасцейшчыне і бадай упершыню над ею рэяў беларускі сцяг.

У Дзень Незалежнасці вядомая Холмская Брама сапраўды сталася беларускай, бо менавіта на ёй рэяў святы сцяг Беларусі. Прыемна ўзрадавала рэакцыя турыстаў: Яны з вялікаю ахвотаю пачалі фатаграфавацца на фоне "ўзятай" крэпасці.

Н.К.

## У Віцебску

Калісьці Дзень Незалежнасці 27 ліпеня ўспрымаўся многімі віцебскімі дэмакратамі як нейкае штучнае свята. Агрэсіўны наступ на здабыткі беларускай незалежнасці выклікаў увагу і павагу да гэтай даты. Вось ужо тры гады запар віцебскія прыхільнікі дэмакратыі ладзяць урачыстыя адзначэнні Дня Незалежнасці. Сёлета святкаванне 27 ліпеня апазіцыянеры правялі не на ўлонні прыроды на ўскрайку горада, як было ў папярэднія гады, а ў скверы на плошчы Уладзіміра Леніна.

Па традыцыі такая акцыя арганізоўвалася ўсімі дэмакратычнымі сіламі горада. Аднак само мерапрыемства паказала, што віцебскія апазіцыйныя партыі пакуль не здольныя павесці за сабой масы. На мітынг з нагоды свята прыйшло блізу ста чалавек.

За паўтары гадзіны, якія працягвалася імпрэза, выступіў з дзесятак партыйцаў. Гаварылі прамовы, чыталі вершы, спявалі песні. Тэмаў для выступаў было багата. Расказвалі і пра даўніну, і пра сённяшнія палітычныя падзеі, і пра гаротны стан роднай мовы. Але сэнс усяго выказанага зводзіўся да аднаго: цяперашні рэжым у Беларусі нелегітымны, спробы здаць суверэнітэт незаконныя.

Гэтыя настроі выразіліся ў двух рэзалюцыях. У адной з іх мітынгоўцы звярнуліся з такімі словамі да Аляксандра Лукашэнкі: "Не Вамі, Аляксандр Лукашэнка, здабытая незалежнасць нашай дзяржавы, і не Вам ёю гандляваць. Гандлюйце тым, што вы зарабілі самі сваёй працай, але не чапайце таго, што вам не належыць! Незалежнасць належыць вольным грамадзянам краіны, якую яны лічаць сваёй Радзімай. А Радзіму, як і маці, чэсныя людзі не прадаюць". Удзельнікі мітынгу таксама прынялі зварот да прэзідэнта Барыса Ельцына і шэрагу іншых суб'ектаў расейскай палітыкі. У дакуменце выказаны пратэст супроць заявы Міністэрства замежных спраў Расеі аб легітымнасці ўлады прэзідэнта Лукашэнкі пасля 20 ліпеня. На думку складальнікаў звароту, такая заява Расейскай Фэдэрацыі з'яўляецца ўмяшальніцтвам ва ўнутраныя справы Беларусі .

Напрыканцы акцыі мітынговай грамадзе не адразу ўдалося ўшанаваць памяць знакамітага земляка Уладзіміра Караткевіча, пятнаццаць гадоў з дня смерці якога споўнілася 25 ліпеня. Перапужаныя ахоўнікі парадку не дазволілі дэмакратам падыйсці са сцягамі і харугвамі да зусім блізкага - у 150 метрах — помніка знакамітаму пісьменніку. Апазіцыянерам давялося пакінуць нацыянальную і партыйную атрыбутыку ды рушыць да манумента пад пільным вокам міліцыянта?.

***Юрась Сцяпанаў, Рэсурсны цэнтр "Згода" (Віцебск).***

### Наша віншаванне

Сакратарыят і рэдакцыя газеты "Наша слова" віншуе свайго аўтара і актыўнага сябра ТБМ рабочага Менскага трактарнага завода Аркадзя Галая з 50-гадовым юбілеем і жадае актыўнай працы на карысць беларускага адраджэння. Сп. Аркадзь актыўны ўдзельнік усіх пікетаў і мітынгаў, якія ладзіць ТБМ у Менску, а таксама ініцыятар стварэння суполкі ТБМ на сваім заводзе. Да віншавання далучаюцца сябры ТБМ з раённай арганізацыі ТБМ Ленінскага р-на Менска.

### Віншаванне

Суполка № 5 ТБМ Свіслацкай Рады г. Менска віншуе сваіх сяброў Трусава Алега і Галая Аркадзя с днём нараджэння.

Жадаем ім поспехаў у працы на ніве беларускага адраджэння, моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, светлага шляху ў новую Беларусь.

Мы вельмі Вам удзячны за Вашы надзённыя клопаты па захаванню і ўзбагачэнню самай вялікай нацыянальнай каштоўнасці – беларускай мовы.

Жыве Беларусь!

